## Узыход

Мо пярэдадзень,
                    мо здзяйсненне,
можа, захад,
                    можа, ўзыход,
хай буяе тваё цвіценне,
ззяе сонцам твой умалот.

І ў расчыненым насцеж прадвесні,
і ў прад восеньскім забыцці
ты самога сябе, як песню,
светлай будучыні прысвяці.

Прысвяці без астатку,
                              па праву,
на прасторы сябе перамнож —
як зямля прысвячаецца травам,
як зямлі прысвячаецца дождж.

Прысвячэнне, а не прычасце,
не прамежкі —
падзенне меж...
Жывучы ў адваёваным часе,
і для іншага часу жывеш.
Так і будзе —
                    паветра у захап!..
Так і ёсць...
     абрываецца год
     туманом цябе ўхутае захад.
І палоскаю
     блісне ўзыход.

**Пачатак**

Усё хутчэй,
усё хутчэй,
адчуўшы волю,
                              ад парога!..
Так пачынаецца ручэй,
так пачынаецца дарога.

Неўладкаваных дзён разлад —
адчай у позірку —
                                             прыесца.
І немагчыма ўжо назад,
І немагчыма ўжо на месцы.

Туды,
      сабе наперакор,
      насустрач вечнаму расстанню,—
      дзе
      замыкаецца прастор,
дзе
      абрываецца хістанне.

Ісці,
      мінаць вясновы тлум
      і лістападу галашэнне,
      ад задумення да задум,
      ад першых спроб да завяршэння.

У адзіны голас галасы
сальюцца,
вымкнуць галасамі...
Так пачынаюцца лясы,
так пачынаемся мы самі.

**Эксперымент**

З глыбінь,
як лава з кратэра,
вырвецца распад.
Экс-
пе接ры-
мен-
та-
та-
ры
не ідуць назад.
Азонам вее ў зале,
ды ліалавее шкло.
Святло,
што вызвалялі,
ім сэрцы апякло.
Учора за гарамі,
цяпер выразна,
тут...
Лаві, кардыяграма,
узмахі амплітуд!
Агні,
дажджы
і здані
вандруюць за сцяной.
Мы плоцім за пазнанне
нязнанаю цаной.
А маладому
сняцца
усмешкі і руччы...
Адчайна мітусяцца
спакойныя ўрачы.
Загінем — не загінем,
бадай, не ў гэтым сэнс.
Работу,
што пакінем,
наступны данясе.

Такое наша шчасце,
калі далёкі
                        хтось
праз многа-многа часу
нягучна скажа: ёсць!
…Прыпаў
      да занавескі
      знясілены
      прамень,
      акамянела
вестка…
Жыве эксперымент!

* * *

Радзіма, да цябе з мальбой
і нараканнем
                    не скрануся.
Я ў весялосці не з табой,
з табой у роздуме і ў скрусе.

Высвечвала бяздонным дном,
ў акно ўзіралася з'інела,
і ведзьмавала туманом,
і летам бабіным звінела.

Калі будзіла весялосць?!
А прахаплюся — ты ўсё будзіш.
І мне няўцям, адкуль ты ёсць,
адкуль пасля з'яўляцца будзеш.

Ты не ўмяшчаешся ў куток,
дзе трызніць Буг, дзе Белавежа...
Твае не вызначыць мне межы
і не намацаць твой выток.

У свет балючы дабяла,
у снежны свет — мае усходы
ідуць: там ты... там ты была!..
Ты ўся наводдалі заўсёды.

**Балада прыкметы**

Дзяўчына, каго чакаеш?
Яна не чакае нікога,
у цэлым свеце нікога,
чырвонымі певунамі
яна рушнік вышывае
і не глядзіць на дарогу.
Ды падае на падлогу
клубок яе вышывання...
Прыкмета хлусіць не ўмее,
прыкмета хлусіць не стане —
каго прывядзе дарога,
з блакаднага лесу дарога
у гэты куток маўчання?!
...А ўжо прывяла дарога —
крокі і шум з парога.
Быццам хістаюцца лісці,
ўваходзіць ён, гожы станам —
вусны крывёй запякліся,
позірк смугой засланы.
Убачыў —
нібы з прадоння,
дыхнулі знямоглыя словы:
— Я гэта... Ад пагоні...
І ўпаў...
Ніхто не нагоніць...
Пасланнік ветру і лёсу,
ён трызніць гарачым боем.
Што ж ты, ці не збылося,
што мроілася — збылося,
дыханне тваё зайшлося,
любая, што з табою?!
Дай моцы ёй, божа родны!..
Хлопец — яе каханы...
Гэтак неверагодна,
гэтак неспадзявана.

Сама сабе не парадзіць,
дзяўчына шчыруе шчырма...
Сцялася ў чырвань гладзі
крыві палымяная чырвань.

Конаўку несла з вадою —
рукі
апалі
ў млосці!..
Ну што ты, ну што з табою,
няўжо такою ж хадою
яшчэ завітае хтосьці?!

І гэтак сэрцу балесна,
нема — адчай напяты.
...Стала ў хаце цесна,
стала цесна ў хаце —
смерць
увайшла у хату.

* * *

Я адстаў,
безнадзейна адстаў,
я не разам з вясной наступаю.
Як сплаўляе вада лесастаў,
не пытаючы, сам паспытаю.

Непазбежна павінны адстаць,
быць не ў сілах заўсёды на ўзлёце,
стану мудрую пушчу лістаць,
аддавацца шляхам і рабоце.

Захапленне аднойчы спачыне,
спадзяванні аднойчы ўздыхнуць…
О, вясна!
Паказала вышыні,
не сказала, як іх дасягнуць.

* * *

Напінаецца цяж…— Напінаецца вецер.
Напінаецца цяж ад упартай хады.
Гарызонт…
Запавет…
І маленства гаркавае веццe…
І на даўніх гасцінцах людскія сляды.

Нашай памяці людзі ўзыходзяць
трысцём, верасамі.
Неспасцiглую думку люляюць лясы.
Не цягніся услед нам,
мы вернемся, самі
у бясчассе, да вас,
дзе сышліся шляхі і часы.

Гарызонту лязо:
сумясціліся высі і долы…
Прагне лугу трыпутнік і замеці луг…
Па зялёнай зямлі пракацілася кола,
легкадумнае кола завершыла круг.

Пакідаючы гнёзды, працягваем гнёзды,
сумяшчае вытокі і вусці вада.
Ды ў завершаны круг не ўмяшчаецца роздум
і хада наўздагад,
да ўзыходу хада.

**Дзекабрыстам**

Што мроілася і турбавала?
А шчасны час
і годны год
ужо прадбачылі апалу
і — узысці на эшафот.
Ужо загадвалі і беллю,
і чорным крэпам
слаць узор….
І качавалі: каб пасмелі,
і заклінаділі: насупор.
Высокі лёс займаўся з вамі,
і на вякі — світанак з ім…
Якое дзіўнае прызванне
угатаванае жывым —
каб найвялікшае ў ахвяру,
каб дні прывольныя
у жмут…
Вы самі з мужнасцю на пару
сабе выносілі прысуд.
І адкрывалася знянацку.
як навальніца:
вы адны…
А над сібернаю Сенацкай,
нібы званочкі,
кайданы.
Прасочаць золь і задуменне
прамавугольнікі акон.
Тут штось не так,
калі ў сумлення
праціўны царскаму закон.
Куды пацягне лёс вандроўны?!.
Скрозь — вышыня,
а справы швах...
Як цаціва,
тугі і роўны,
з канца ў канец кладзецца шлях.

* * *

Не распнутае доляю ўбогай,
не пранізанае свінцом,
абкладаецца сэрца аблогай,
заціскаецца жорсткім кальцом.

Зайчаня маё, сэрца, бяжы,
затаіся дзе-небудзь,
замоўкні...
Гэта восень на рубяжы,
лістапад зазірае ў вокны.

Перагледжаны тайнікі:
можа, там ты,
і ў каруселі
з дрэў бязмоўных твае двайнікі
спапялёныя абляцелі.

У тузе, у смузе, ў баляванні,
ў свеце сонечным і сівым
пільна цягнецца паляванне
за намацаным сэрцам сваім.

Трапяткое стварэнне прыгоды,
усеісная сутнасць біцця —
удыхнула дыханне ў прыроду,
небыццё узняло да быцця.

Мысліць воблака і зіма,
мысліць возера і дарога...
Ды няма ў іх, няма ў іх, няма
неспасціглага сэрца жывога.

Як бянтэжыць між звыклых трапецый,
між настылых канструкцый, між —
што калоціцца і трапеча,
нетутэйшае... богам звыш...

Утаймоўваюць пераплёты,
і бяскрылы мкнецца закон
збіць высокае неба палёту,
супыніць ашалелы гон.

Грукачы, грукачы, грукачы,
уцякай у туман,
у бязмежнасць…
Раскрычаліся крумкачы,
абвяшчаючы непазбежнасць.

Буду — хваля свайго адплыцця,
буду — попел,
    развеяны ў смерці,—
    грукат сэрца, жывога сэрца
    ўздыме нанава да быцця.

* * *

Усплёскі
    вады і вербаў
    і промняў разводны нахіл —
    хваля даверу.
Праменны
вечарам небасхіл.
Крылы нібы трымцелі,
цені нібы брылі,
выклікания да нечага,
запеньваліся бруі.
І прападалі
    навечна,
    і быў глыбокі спачын...
Чыім хаценнем — рэчка,
дыхаць цішком — чыім?!
Заручаныя,
                маўчым.
    Здранцвелае разуменне,
    што іншае ўсё — прычым
    і нашае ўсё ўзаемна.
Выспелы дзень.
Век белы —
помні... жыві...—
згарыць.
Чый абрыс спахмурнелы —
воблакам угары?
Наспее...
Што жывіць і поўніць,
і помніць мяне — пазнаю.
Слухаю анямелы
нечую споведзь сваю...

**Пытанне**

За абрывамі дня пагрукочвае гром,
навісае палац,
вышынёй азароны...
А сцярожкім дваром,
      нерухомым дваром
      ходзіць Гамлет — наследнік кароны.
Можа, заўтра ляжаць давядзецца ў труне,
мо наліты той яд і адкладзена шпага,
што прызначаны мне,
што сумуюць па мне...
Неспатоленай кончыцца смага.
Я рашаю ўвесь час і ўвесь час не рашу...
Ці ўся мудрасць зямлі — разважаць без адказу?!
Іраніст і вар'ят,
ён, хавае душу,
як у музыку, ў мройную фразу.
Наплывае, бы сон, свет прасторы і кроз...
Дык навошта туга, калі ёсць летуценні,
дык навошта жыццё, беспрытульнае скрозь,
калі ноччу блукаюць нятленныя цені?!
Пакаранне за здраду —
зноў здрада і грэх?..
Ды калоціцца помста ў прычал і прыпынак.
Вы шукаеце шчасця,
шукаеце ўцех —
ілюзорныя пошукі...
Есць паядынак.

Засцярога...
І боязь...
І ўсхліп...
Не спіце...
Там — удары стыхій, там — дажджу лапатанне.
Адыходзіць жыццё,
без адказу жыццё,
ды любоў, ды любоў яму ўся за пытанне.

**Адкрыццё**

Чатыры крокі па кватэры
праз ноч,
                    няўтульнасць,
                                        забыццё.
О, неразважлівая вера
у вышыню і ў адкрыццё!..
Упляліся профілі вялікіх,
абрысы дрэў і гарады
у запаветныя разлікі
і ў лічбаў важкія рады!..
І адкрыццё —
    праз золак белы,
    праз апантанасці агонь,—
    нібыта яблык пераспелы,
    само
ляцела у далонь.
Сусед,
    гаворкай падагрэты,
    пад шчодрай яблыняй гавеў.
І білі звонкія ранеты
па неразумнай галаве.
А адкрыццё
    брыло начамі
    пад гоман рэчак і асін,
    у выпадковасці адчайнай
    невыпадковае зусім.
Трывожны лоб.
Сівыя скроні.
Скупы пагляд.
Міжвольны рух.
І прарывалася,
    як промень,
і вырывала
з цемры круг.
І, адступіўшы ад парога,
вятрыскам

грукалася ў дах.
О, адкрыццё!
Твае дарогі
яшчэ ніхто не разгадаў.
...Ляцяць
гіганцкія арэлі,
азёраў кубкі
і масты,
ды ападаюць на карэнне
начныя цені і лісты.
На твары месяца сляпога
бяссоння
цьмяныя сляды.
Як першабытны
помнік богу,
карчага высіцца з вады.
Сякуць
шалёныя падковы
лугоў напятае крысо...
кожны момант
выпадковы,
выпадкова
адкрыццё.

* * *

Смуткуе бярозавы гай,
і ясені курчацца ў трансе.
Каханне — куды ты?
Бывай!..
Ідзі...
не пакінь...
не астанься!
Куды не даходзяць, туды
у хмарную, горную, тую...
ўратуе цябе ад бяды,
ад гібелі, можа, ўратуе.
А стуль,
на знямоглым адрэзку,
дзе возера стыне ў труне,
твая незабудная вестка,
што ёсць ты,
ўратуе мяне.

**Рагнеда**[1]

Адсылаюцца сваты —
рэй пусты…
Трубу абрыне
не абраны, не святы:
для рабыніча — рабыні.

Як страла трымціць —
прыспеў…
Курны дым — як сцелюць воўну…
Налучыўся неспадзеў
карны выкуп за князёўну.

Слынна
    ў варварскія дні
    выкшталцоўвалася крэда:
    пры вачах шчытной радні
абняслаўлена Рагнеда.

Уладзімір, уладар,
праз вякі крычыць здарэнне,
праз вякі гудзе пажар:
чад і слёзы — парадненне.

Ад радзіны анідзе —
парадненне —
анікога.
Праз вякі на збой ідзе —
тлен і парасткі —
дарога.

Цесны церам,
змор звініць,
зазвініць душа-вярэда…
Прыпадзе каханка ніц…

---

[1] Рагнеда — дачка полацкага князя Рагвалода — была гвалтам узята ў жонкі кіеўскім князем Уладзімірам. Пасля хрышчэння Кіеўскай Русі пайшла ў манастыр пад іменем Настассі. Яе сын Ізяслаў стаў заступнікам мацярынскай зямлі.

Занясе лязо Рагнеда,
не за волю і дабро —
за няволю і змірэнне...
О, рабыннае таўро —
з пераможцам парадненне.

Неназванаю была,
неназванай засталася —
знак святлейшага гала
пад хусцінаю Настассі.

На зняверанай вярсце
адрачонымі начамі
прыадчыніцца:
                    расце
сын — вачамі палачанін.

Адраджэнне:
заснуе...
адрадненне:
верне краю
род упарты — ўсе свае...
Род адступнікаў карае.

А пакуль, князь,
                    а ці знаў
ты не сам тут...
Як закляцце —
прыўзнімае Ізяслаў
меч,
          атрыманы ад маці.

**Нявыказаная балада**

Чаромхі горкі пах…
Зялёных дрэў красунак…
Пялёсткі на тваіх губах —
мой пацалунак.

Спяшаўся я і не паспеў:
заспела ранне…
Ляснога ветру спеў —
маё прызнанне.

Прайду дажджом,
з'яўлюся сном,
мільгну трывожным ценем.
Шум вяза пад тваім акном
маё трызненне.

Куды твой шлях ні павядзе
і я там буду.
Не азірайся
анідзе —
з табой я ўсюды.

Марыя, чуй,
Марыя, стой!..—
варожыць ноч глухая.
А ты бяжыш… І за табой
бязмоўнае: кахаю!..

**Ён вызваліў агонь**

За коснымі дымамі
калоціцца агонь,
што губіць і ўздымае.
Дзе будні,
дзе нядзелі,
дзе ўрач,
    дзе пацыент?—
    Ван Гог, вы разглядзелі,
    вы ўцямілі,
Вінсент?
Карпець і надрывацца —
знямога ля шчакі…
Ды
хай
    жыве вар’яцтва,
    што рухае вякі.
Адчай —
і неба —
дном,
звіняць гады, як цацкі…
Прытулкам стане
дом,
душэўны дом,
вар’яцкі.
Ён узрывае коснасць —
свяцілы дагала!..
І сутнасць, быццам космас,
ўзвівала і пякла.
Ён наклікае згубу:
    ён вызваліць агонь!..
    Хвіліны лічыць скронь,
    Паветра ловяць губы.
Вінсент, твая далонь
не ведае ўсёй долі…
Ён вызваліў агонь.
Ён небыццё адолеў.

**Шчасце**

Твой недаступны лёс,
      музыка,
      пасуе велічы тваёй.
Як неадкладную пазыку,
як у глыбіні з галавой,
да ачмурэласці,
да стомы
аддаць усё, усё аддаць
і — неістотнаму самому —
хадзіць,
            смяяцца,
                        уздыхаць.

**Прамільгнуўшае**

Прамільгнуўшую думку шукаю,
прамільгнуўшую думку лаўлю.
Не разгледзеўшы нават —
                                        якая,
ўсёй душой уцякачку люблю.

Як збягаюцца рэкі да мора,
як агонь сярод дыму прыціх —
можа, вернецца заўтра ва ўчора
спасцігаць
                    неспасцігнуты міг.

**Немагчымае**

Тваe бары
ў цішы напеўнай
страляюць стромка ўвышыню,
твая зара
бунтуе гнеўна,
як кроў,
як полымя агню.
Дымяцца горача, як рана,
тваe
рачныя паплавы...
Задумай велічную справу
і абвясці:
«Іду на вы!»
Сівы стары хісне плячыма
і, быццам
гледзячы ў ваду,
прамовіць мудра:
«Немагчыма,
як два разы быць маладух.
Пакажа доўгія разлікі
і стосы спісаных папер.
А ты ў рашучасці вялікай
яму сягоння не павер.
Не адступаючы ні разу,
твары,
высноўвай
і палай!..
Твая энергія, як лазер,
разрэжа
неба напалам.
Праб'е
без грозных грукатанняў
сваціла выпучаны шчыт.
І сумны свет другою гранню
перад табою заблішчыць.
Калі засмужыць часам

вочы
сумненне
    хмараю сівой,
    застынь у роздуме паўночным
    сам-насам
    з мэтаю сваёй.
Хай над табой
агнямі Прэсні
палаюць
    ягады рабін.
Паўстань,
распніся,
    уваскрэсні
    і немагчымае зрабі!

**Балада цікаўнасці**

Цікаўны чалавек,
такі цікаўны,
што, ўгледзеўшы у птушак крылы,
ён змайстраваў падобныя сабе
і рынуўся ў паветра са званіцы…
Няўдалым быў палёт на першы раз,
і тым не менш меў рацыю цікаўны,
бо што магчыма птушкам,
    тое ўрэшт
    павінна быць магчыма чалавеку.
Крылатым стаў цікаўны чалавек.
Ніякі від пярнатага сямейства
не здолее цягацца з ім
у галіне, адведзенай пярнатым.
Стаў самай лепшай птушкай чалавек.
Цікаўны ён,
у гэтым сутнасць руху.
Ці рыбам пазайздросціў чалавек
за іхні спрыт, непадабенства, здольнасць
блукаць у неабдымным акіяне,
ці сам затрызніў акіянскім богам,
але стварыў аднойчы ён прыладу
і ў ёй пранік у тайныя глыбіні…
Такі ўжо ён, цікаўны чалавек —
нібы каб чалавекам адчуваць,
патрэбна і ўсім іншым быць пры гэтым.
Вось цёмны куб…
А ў гэтым цёмным кубе
дух разбурэння,
дух знішчэння,
                              дух,
што спапяліў аднойчы Хірасіму.
Цікаўны чалавек і цёмны куб.
Цікаўны чалавек і цёмны куб…
Цікаўны чалавек…

* * *

Калі мы проста былі знаёмыя —
было ўсё проста:
сустракаліся, як давядзецца,
гаварылі, што давядзецца,
так, пра клопат, пра дом, дарогу...

Калі мы проста былі знаёмыя —
мы былі як лісцё вясною:
ні мінулага, ні ўспамінаў,
толькі будучыня
і ўзаемнасць.

Калі мы проста былі знаёмыя —
непатрэбна было нам ведаць,
што збліжэнне, як разбурэнне,
небяспечна і дынамітна,
што наноў знаёміцца цяжка,
немагчыма амаль...

Калісьці
мы з табой былі проста знаёмыя.

* * *

Каб не пакінуць успаміну,
а забываць усе гады —
было сысціся на хвіліну
і разысціся назаўжды.

Было ўзірацца ноччу белай
ў акенца, бачнае ледзь-ледзь,
каб зараз колішняй, няўмелай,
сваёй душы не зразумець!..

**Роспачная балада**

Быццам грозны круты ледавік
    падмінае лясы і абжытыя гроты,
    быццам юная курчыцца з дрэў зеляніна лісця
    гэта скардзіцца скарга,
    гаруе гаркота:
— Не ўспамінаў хачу я, хачу забыцця.

Есць у часу працяг, і даліны, і выямы-груды,
і ўзнясенне — я ведаю іх!..— і абрыў.
— Я хачу забыцця, забыцця, калі ведаць не буду,
што хадзіў, што любіў, што ўсміхаўся, што быў.

Забыцця! Забыцця! Ад шалёных трывог,
ад бясконцых дарог,
ад сляпога кружэння.
На вялікае мноства усіх перамог
дастаткова ўсяго, усяго аднаго паражэння.

Нерухома трываць: непатрэбны ні розум, ні зрок,
і чакаць, і чакаць — праяснення?.. змяркання?..
Забыццё б!.. Забыццё!..
Ці — апошні рывок
да канца, да любві, да надзеі — ў змаганне!..

* * *

Сачу вясну.
Жыву ў Міжбор'і…
І два бары, як спарышы,
між дыялектыкай надвор’я
і дыялектыкай душы.

Прачнуся сцішаным світанкам —
на шыбах вільгаці налёт.
Гадзінай шарай да сняданку
крышу збуцвелай пешняй лёд.

Зайздросна жыць пераканана,
счапіць ватоўку гаплікам
і знаць, што ўжо нагатаваны
аладкі з кіслым малаком.

Туман нябачны нойдзе ў сені,
ён і вакол, падманны газ…
Я разумею праясненне
як вырашэнне і адказ.

Іду — брыду…
Настрой прыўзняты,
і ўзняты сцежкі — шво на шво,
і светла мроіцца пра свята…
А свята часам тым прайшло.

І дзень — на схіл,
і сам бы ў змане,
світанкі быццам па вадзе…
Ды зноў пярэдадзень паўстане,
бор да Міжбор'я прывядзе.

## Арышт Кастуся Каліноўскага

Аблога...
Крокі...
Ляск...
Прыцемненыя сцены,
і дрогкай свечкі бляск,
і на парозе цені.
І месяц паўз акно
слізнс, як паражэнец —
на схіл усё адно...
Як зваць вас?
Вітажэнец.
Утойваюць муры,
сцярожкі бор таемны
да іншае пары
імя яго нядрэмна.
Да іншае пары
пакінуты сякеры,
да іншае пары
сышлі касіянеры.
І запазычай край,
і аціхаюць знічы...
Хавай,
хавай,
хавай
сапраўднае аблічча!
О, наступ нематы—
нябога... выраджэнец...
І ўжо знікаеш ты...
Няма ўжо...
Вітажэнец...
Ні вучняў, ні сяброў...
Сарвецца шлях памглёны..
Як волю і любоў,
дае нам час
імёны.
Учэпяцца...—

з пятлёй —
не выбіцца...—
ажэняць...
Па той бок — што па той?
Па гэты —
Вітажэнец.
Заўжды — адзін адказ,
утойванне... змяншэнне...
Але прыходзіць час
імя і ўваскрашэння.
Усё ніты у сувой,
у заклік пагалоскі
з'яднаць —
і стаць сабой!..
Як зваць вас?
Каліноўскі.

* * *

Усюды голас твой чуцён,
і паспляталіся галіны…
Не пакідай мяне,
жыццё,
і я нікога не пакіну.
Не забывай…
Любі…
Калі ж
скранецца значнасць дыялога —
мяне да існага наблізь,
яму вярні мяне самога.
…Вазьмі назад свой вешчы дар,
вярні ў іначшыя надзелы…
Як сон,
заблытаны гушчар,
сны гушчароў незразумелы.
І здзірванела
з-пад рукі,
мае ўбіраючы пратэсты,
жывуць сцяблiны,
як радкі
недасягальнага падтэксту.
Я іх маўчаннем гавару
і трызню іхнім задуменнем,
каб стаць у спелую пару,
іншабыцця увасабленнем,
каб свой узрост перарасці
перад свядомасцю бязмежжа
і распазнаць,
чаму належу,
што мне належыць у жыцці.

**Сакавік**

Яшчэ навінаю сумненне
і нечаканасцю
азы:
пасля завеі — пацяпленне,
пасля адлігі —
маразы.
Ды свет, заручаны з палётам,—
ужо натхнёны,
сам не свой...
Дыханне цепліцца пад лёдам,
буянне —
ў скібе веснавой.
І ўсё наіўна верыць чутцы,
што адыходу
не бываць...
Тым — з-пад завеі не ачнуцца,
тым — з новай сілай забуяць.
Чый недавер,
чыя нуда,
чыё няведанне сплывае?
Мармыча
цёмная вада,
вада празрыстая спявае.
Відаць, далёка завяло —
ау!—
пярэдаднем бялёсым
чакаць таго, што не было,
крычаць таму, што не збылося?!.

Яшчэ пад снегам сакавік,
яшчэ не страчана нічога,
і прадчуваецца усклік
неакрыяўшага жывога.

**Балада пратэсту**

Каля Юр'ева
   дол паворана —
каля Юр'ева
норы ворага...
Бор абрушаны б'е таранам —
курчы рыбіныя без ракі,
і пульсуюць кастры мембранна:
навастрыліся крыжакі.
Занавесаю:
   эсты — нехрысты —
   навісае злавесны змест.
Вячка Полацкі[2],
дзвінскім нерастам
сярод нератаў
твой пратэст.
Шчыт тутэйшых
   прад сутарэннем...
   Свет ліць зорка тваю вяху:
   замахнулася пакарэнне —
Вячка. Полацкі на шляху.
Па-за Юр'евам не працягі —
зеўраць чорныя рубяжы...
І цвярдзей,
   як даюць прысягу,—
   паміраючы, не чужы.
   Непярэйдзены сэнс —
   ні сведак,
ні надзей і раскол па сцяне —
на замах пераможны: гэтак!
Адгукнуцца крыштальным: не!..
Не зачэпяць:
   на выезд віза —
   нецярплівы капыт каня...
Ды нязгодна скразніць,

---

[2] Вячка — князь з Полацка, загінуў, абараняючы, эстонскі горад Юр'еў ад крыжаносцаў.

пранізваючы,
безназоўная глыбіня.
Уцалець ад ліхой навальніцы...
адступіцца
    ў жыццё і ад'езд...
    белым светам наўзмах засланіцца,
    светлы позірк і смелы жэст —
    у сваёй і чужой Айчыне
    немагчымае быць нічыйным,
    немагчымае
    і пратэст.
Распрастаешся ты на доле —
па жыцці,
    па бядзе,
па вайне...
Але ўкладзена неадольная,
Вячка Полацкі, сіла ў «не».

**Запавет**

Надломы — не яму надломы,
пярун — і гэта не яму…
Уздымацца дрэву маладому,
мацнець
праз лета і зіму.

І захаваць не проста звесткі,
а запавет на ўсе часы:
тады выстойваюць падлескі,
калі выстойваюць лясы.

* * *

Адно сказаць,
    як пішацца — пішы,
    не мудрагеліць, слухацца натхнення…
    Кляймёныя адзнакаю душы,
    тваімі стануць гэтыя імгненні.
Пішы — і паслухмяная рука
накрэсліць знакі,
словы занатуе
і перадасць пульсацыяй радка
суіснасці пульсацыю крутую.
Магчыма, справядлівы меркаванні:
і тэму ўзняць, і рух адлюстраваць…
Ды кожны раз тваё выратаванне
і клопат твой — як пішацца, пісаць.
У двух часах з сумненнем і надзеяй,
у двух часах спыняюся, бягу…
Але заўжды
    па-новаму не ўмею,
    а па-старому ўмею —
    не магу.
Што застаецца нам ад летуценняў,
што самі пакідаем мы ў жыцці?
Адно сказаць —
прыйшлі б у час здзяйсненні,
а іншае —
самім да іх прыйсці.
Самаахвярны клопат
    блаславёны.
    Не згіне свет з адмецінай душы.
    Ёсць рацыя сказаць:
    жыві натхнёна —
    і паўтарыць:
    як пішацца — пішы.

**Першапраходцы**

У позірку — сляза і хмель…
Насустрач страце і знаходцы
у глыб нязведаных зямель
ішлі чуць свет першапраходцы.

Перабіваліся б такі,
у дол глядзелі, а не ў высі!..
З куткоў абжытых узняліся,
пашыбавалі напрасткі.

Што зналі вы?
А клопат знаў
адно: ішла б работа спраўна.
Павыступала сівізна,
нібы туга па непапраўным.

Таму што смутак адгарэў,
таму што ззяе дзень асенні,
парашутыстамі ад дрэў
ляціць у белы свет насенне.

У нелюдзімасці, ў скабе,
як кантрабанду,—
несудзіма,
яно знаходзіла сябе,
яно захоўвала радзіму.

Дзе вы цяпер,
першапраходцы?
Ваш крок груваскі не чуцён.
Вы загубіліся ў паводцы,
у веснавым буянні дзён.

Адпрацаваўшы, на спачын,
ледзь цені чуйныя пабеглі,
не засмучоныя нічым,

нічым не ўцешаныя леглі.

Але праз веянне начэй
у нейкі момант недзялімы —
любоў… смуга…—
да іх вачэй
цішком схілялася Радзіма.

**Барабаншчык**

На крывавыя травы палеглі штандары,
і жалобнае сонца ўвабралася ў дым…
Ды расколваюць свет апантаныя ўдары,
барабаншчыка ўдары: адзін за адным.

Уставаць, каб стаяць,
                                        уставаць, каб упасці,
на шалёным бягу, ў забыццё, ў крутаверць!..
Неспазнаны палёт, неспазнанае шчасце,
неспазнаная даль…—
       барабаншчыка смерць.

Ад хады — да хады,
ад учынку — да ўчынку,
праз сутонне знямогі, праз цемрадзь жуды…
І няма аніколі яму адпачынку,
ён даецца аднойчы яму: назаўжды.
Пранікаем у час, адхінаем заслоны
таямніц і сакрэтаў —
       і вечна з табой
       ўсё грыміць і грыміць барабаншчык бяссонны
       і вяшчае жыццё, абвяшчаючы бой.

* * *

Не вернецца воін,
вандроўнік не вернецца,
вернецца сейбіт…
Заўсёды
          вяртаецца сейбіт.

* * *

Адна, тая самая зорка…
Камусьці на шчасце,
камусьці на гібель —
падае зорка.

* * *

О, мэта, мо тваёй далечыні
я дасягнуў бы ўжо,
каб іншых не было,
якіх
          было таксама варта дасягаць.

* * *

Вядзе, закружвае віццё
турботаў, хмелю, пуцявінаў.
І папярэдняе жыццё
усё глыбей,
                    у сэрцавіну.

* * *

Адшчыкну вугельчык ад палена
перакотваць з далоні на далонь…
Замірае, дыхае нятленны
спадарожнік, продак мой — агонь.

* * *

Была як усмех дарога,
быў свіст электрычкі вясёлы…
Усё засталося нязменным,
а — быццам усхліп дарога.

* * *

Мінула, знікла...
    І ў траве
    прамень бязбоязна іграе.
Але мінулае жыве,
яно за намі назірае.

* * *

Сышло сцяжынай непрыкметнай,
як і прыйшло, на бляск і тло.
што колісь employment марою было
і будучыняй запаветнай.

* * *

Храм, ператвораны ў барыкаду,
статуя, разабраная на кавалкі,
кніга, сагрэўшая рукі паўстанцам,—
ніколі не бачыў я вас...
Але вышэй шкадавання аб гэтым
усведамленне,
                што вы паслужылі як трэба.

* * *

Ды
ёсць яшчэ прастор далёкі
і сцежка —
                доўгая бы ўздых...
Ты сам з сабой не адзінокі,
а між людзей:
куды ж ад іх?

* * *

Развей няведання туман
і адкажы нам,
непазбежнае,
ці гэта час належыць нам,
ці гэта мы яму належныя?

* * *

Я іх прыдумаў:
абавязкі!..
Я іх стварыў, я гаспадар...
Мне надакучыла іх ласка,
іх непрадбачаны цяжар.
...Не адпускаюць абавязкі.

* * *

Як ні жыві, сваю тугу
той, хто жыве, не забрытае.
Я ўсё бяру і ўсё вяртаю.
усё ў даўгу,
                    ў даўгу,
                              ў даўгу.

* * *

Шукаем ісціну.
Сцюдзёна
яна ў азоне і ў вадзе...
Яе не знае здаволены,
яна сасмяглага вядзе.

* * *

З дзівотнай вечнасцю ў хаўрусе
да супярэчнасцей прывыкну.
Застацца каб! — не застануся.
Бясследна знікнуць бы! — не знікну.

* * *

Тут толькі лета і зіма,
світальны позірк,
сон глыбокі,
і белаплынныя аблокі,
і міг,
          што быў і ўжо няма.

* * *

У гэтым лесе,<br>
на гэтай зямлі,<br>
нечакана безабаронны,<br>
буду пакутліва ўспамінаць,<br>
як падаюць<br>
                    дрэвы.

* * *

Спазнаць —<br>
спазнаеш разважанні,<br>
трактаты, дні, календары,<br>
спазнаеш круг і скрыжаванні,<br>
спіраль...<br>
          А ісціну —<br>
                    ствары.

* * *

Здасца,<br>
     што ўсё ўжо было:<br>
     позірк, пяшчотны і чулы,<br>
     сонца ў лісці і крыло,<br>
     што ўвышыні мільганула.

* * *

Чые сляды засыпала пяском,<br>
чые сляды травой пазарасталі...<br>
Нібы мы памыляемся —<br>
     прырода<br>
     сцірае чалавечыя сляды.

* * *

Каб дачакацца,<br>
не хапіла хвіліны...<br>
Каб назаўсёды расстацца,<br>
хапіла якраз<br>
хвіліны.

* * *

Прыйшла —
туман на мураву —
звінець,
      ах, восень,
                  ганарыцца...
Сланечнік згубіць галаву,
празрыста ясень загарыцца.

* * *

Паміж дзвюма бяздоннямі
маўчання
пульсуе думка —
голас пра маўчанне.

* * *

І прыпыніўся крок,
і позірк
нічога не спаткаў у далячынях,
няўтворанай разбурылася будучыня...—
як проста разбураюцца намеры.

* * *

Людзі,
            аблокі,
                        дрэвы,
з якімі ў мінулым расстаўся,—
няма да каго вярнуцца —
таксама з мінулым рассталіся.

* * *

Магчыма, выслалі лісты на доле
і напісалі птушкі на аблоках
фармуліроўку вечнага закону,—
адлёт і одум —
      восень наступае.

* * *

Зніклі ўдалечы сны аб гадах маладых,
парыванні,
дарогі,
    каханыя вочы...
    Лістападаўскі вецер бушуе пра іх,
    красавіцкае сонца зіхоча.

* * *

Перакладаю шэпт дажджу,
пагляд вачэй,
трымценне гаю...
Кранаю,
слухаю,
    гляджу,
    я не пішу — перакладаю.

* * *

Вятры паспелае сажнуць...
Празрысты смутак над кляпамі
і спеў,
што нас перажывуць
яны, пасаджаныя намі.

* * *

Быццам кроплі па ігліцы,
быццам стогн па цеціве...
Гэта вечнасць заімгліцца,
гэта даўнасць усплыве.

* * *

Няма звароту у маленства...
А хвалі — блізкая радня —
завабяць, знойдуць падабенства...
Але гняце нас глыбіня —
няма звароту у маленства.

* * *

Свет у аблозе навальнічных хмараў,
агеньчык у аблозе цемры;
крык не праб'ецца,
скамянее сказ...
Як выказаць цябе, маё маўчанне?

* * *

Перажыву —
    і сны, і дзеі,
    і шчасце (вышай — галаву!..),
    і здрады ўдар, і час надзеі,
    і сэрца плач...
Перажыву.

* * *

Блакіт нябёсаў, луг стракаты
больш не узрадуюць таго,
хто страціў сэнс.
Бо сэнсу страта —
то, пэўна, страта усяго.

* * *

Як пехацінец долу сціх,
уцяўся ў жвір,
ніхто, ніякі,—
перачакаць бы гэты міг,
уберагчыся да атакі.

* * *

Гісторыя чалавецтва...
І непрабудны сон,
і задуменне тчэцца,
і жвіру скупы загон...—
Гісторыя чалавецтва.

* * *

І ўчора, і сёння
абышоўся без твайго голасу,
без твайго дыхання..'
І баліць галава ад думкі:
без чаго ў такім выпадку немагчыма абысціся?

* * *

Паміж усім на зямлі
дзве адлегласці:
паменшыцца адна —
павялічыцца другая.
...Мы далёка і блізка.

* * *

Вярнуць... вярнуцца б
позним госцем
у юны свет,
у маладосць...
А хто захоча ў маладосці
застацца гэтакім, як ёсць?!

* * *

Самыя грозныя пытанні — простыя пытанні,
іх вылепваюць дзеці: навошта? чаму? калі?..
Ды сплываюць пытанні,
праходзяць пытанні,
застаёмся адны мы.
Пытанні былі...

* * *

А сэнс тых слоў я не спасціг...
Я іх забыў, ну хоць бы знак...
Там грозны сэнс!
Ды словы, іх
я не прыпомню.
Аніяк.

* * *

Ляцяць —<br>
  праз леты... зімы...<br>
О, птахі,—<br>
дзень і год...<br>
Ім не зямля радзіма,<br>
радзіма ім палёт.

* * *

Блукаюць сны<br>
у лабірынце розуму,<br>
і ў снах блукае розум...—<br>
шлях людскі.

* * *

  Прыкмеціць позірк<br>
хмары і абсяг,<br>
учуюцца зацішша...<br>
бездыханне...<br>
І толькі думка,<br>
вымкнуўшы маланкай,<br>
знітуе ўсё і рынецца<br>
ў бязмежжа.

* * *

Хто клаў дарогі,<br>
сцежкі праразаў?..<br>
У два канцы па іх імкнуцца людзі,<br>
у два канцы вяртаюцца,<br>
каб зноў<br>
назаўтра адыходзіць і вяртацца.

* * *

Дальні шлях ад снегу да дажджоў,<br>
смутны шлях ад краю і да краю,<br>
шлях,<br>
  які аднойчы я прайшоў,<br>
  незагойна памяць паўтарае.

* * *

Усведамленне руху...—
без яго
абставіны аслепяць і аглушаць.

* * *

Дарога дадому...
Усе дарогі,
    якімі хадзіў і ездзіў,
    ўбірае дарога дадому.

* * *

Зноў выпаў снег...
Да шыбаў прыпадалі
і цешыліся дзеці: выпаў снег!..
Растаў і выпаў снег.
Растаў і выпаў...

* * *

Абазначыцца далячынь...
З жыватворнай зямлёю ў згодзе
зерне падае і ўзыходзіць,
жыватворнасць зямлі даючы.

* * *

Выбіўся з рытму часу —
падаю
        ў бездань часу.

* * *

Жылі,
а роспач на стала —
абвінавацілі адзін аднаго
і разышліся.
Жыву —
і бяздонныя дні і ночы,
і што вінаваціць,
не знаю.

* * *

Аднойчы зняверыцца…
І затупоча пясок,
і пахіснецца дом,
пабудаваны — о, жах! — на пяску,
варта аднойчы зняверыцца.

* * *

Піць малако…
Не ведаць млосці,
не вандраваць па гарадах,
быць маладым, у маладосці
і памяркоўным у гадах.
Піць малако.

* * *

Спакой вачэй і рук прытома —
зноў па сабе
і зноў ні з чым…
А ўжо прывабна-невядомы
зноў зараджаецца зачын.

* * *

Бядую: страта,
радуюся: страта…
Воўк-санітар — нас насцігае страта,
і неадступна гоніць,
      і ніколі
не ведае ні літасці, ні жалю —
усё слабое забірае страта.
Бядую: страта…
Радуюся: страта…

* * *

Аднойчы,
калі завершу ўсе справы…
О, як многа трэба зрабіць,
калі завершу ўсе справы.

* * *

Яшчэ ніхто…
Адны з усіх…
З натоўпу мы…
Збліжэння спробы…
І абаім нам кожны міг,
наступны міг — міг да асобы.

* * *

А стоміцца сонца,
    і неба
    туман апануе густы —
    акрыюць азяблую глебу
    налітыя сонцам лісты.
Нязначнае адхіленне
разліку,
кроку
    і вясла —
    ў якім варунку і калене
    ты акупляешся пасля?!

* * *

Дарога колішняя дыбам,
і цяжка мне,
і горка мне:
калісь не ўбачаныя хібы
відаць цяпер —
і горка мне.

* * *

І дрэва —
барва і прагалы —
лісты крамяныя свае.
якія ўчора ўберагала,
цяпер самохаць аддае.

* * *

Плылі вясна і лета па рацэ,
усходзіў маладзік,
займаўся ветах...
Ляжаць няўцямна ў сцішанай руцэ
азяблыя сцяблы асенніх кветак.

* * *

Усхваляванае Прыбужжа
і край усхмелены лясны...
А дрэвы, чорныя ад сцюжы,
ўсё ж дажываюць да вясны.

* * *

Голас клікаў —
таму прыходзіў...
Замаўкаў ён, калі прыходзіў.

* * *

Кожны ведае сябе дастаткова,
каб мець пра сябе ўяўленне...
Але і што і хто мы,
не нам стане вядома.

* * *

З году ў год
вечна цешу сябе надзеяй,
што з усімі, з кім час развёў,
звядзе зноўку.

* * *

Дождж падступіў
здалёк і звысака,
з'яднаў далечыню і вышыню —
свет у тваім паглядзе
умясціўся.

* * *

Чакаюць навальніцы хвоі —
а навальніца вызначыць абраных,
якія упадуць ад перуна.

* * *

Хай будзе мост,
надзейныя масты,
што з рук тваіх
У час,
у цяжкі час
    пярэймуць будучыню.

* * *

    Праз момант
і праз век
вяртае рэха,
вяртае рэха слова,
думку,
жэст,
вяртае нас саміх...—
так помсціць рэха.

* * *

Дзіўная бітва —
з бязмежнасцю,
і дзіўны рахунак у бітве з бязмежнасцю—
не перамогшы, загінуць
волатамі.

* * *

Век хуткасцей, век паскарэння —
хутчэй,
        няспынна,
                назусім...
У будучыню, у азарэнне,
мы, быццам падаем, ляцім.

* * *

Зыходам марафонца
ўзыход наш праз гады...
Туды, дзе бліжай сонца —
У сівер, у ільды.

* * *

Сярод усіх вятроў
адзін спадарожны.
Сярод усіх шляхоў
адзін незваротны.

* * *

Што прайшлі —
не ахопіш зрокам,
але доўжацца,
лучацца звенні...
Чым далей ад сваіх вытокаў,
тым бліжэй да іх разумення.

* * *

Як вынайсці,
што самае галоўнае?
Я нешта вырашаю і раблю,
раблю і вырашаю,
    ды заўсёды
    і знікае тое самае пытанне:
    як вынайці,
што самае галоўнае?!

* * *

У самай глыбіні роспачы,
у самай гушчыні смутку —
не паварочвай,
ідзі далей!..—
крынічыць жыватворнае праменне.

* * *

Ты са мной — не звяртаў увагі,
ты далёка — шукаў і клікаў…
Што звядзе нас, што развядзе,
калі блізка, калі далёка мы?

* * *

Абраны шлях, а вынік невядомы…
І звестак пра яго не дасылаюць
той, хто пайшоў даўно і хто нядаўна,
абраўшы шлях, пакінуўшы набытак.

* * *

Куды? адкуль?..—
маўчанне…
Не дасць адказу час.
Стаю — і сам пытанне,
іду — і сам адказ.

* * *

Паўхвілі да ратунку —
і жыццё…
годы…
дзесяцігоддзі…
    усё жыццё
    знячэўку пераважваюць паўхвілі.

* * *

Раўнавага ці роспач?
Спакой ці трывога?
Завяршаецца год, быццам час
завяршаецца.

* * *

Усё мы маем…
Пільным вокам
акінь зямныя берагі…
Але адзін памрэ ад спёкі,

памрэ ад холаду другі.

* * *

Расстаючыся,
      мы мучыліся пытаннямі
      і не знаходзілі адказу...
Але вынік тлумачыць невытлумачальнае —
нават чаму мы рассталіся.

* * *

Няма ні неба. ні зямлі,
яшчэ ўсё будзе:
і сад,
і шэпт,
      і адчуванне —
      няма ні неба, ні зямлі.

* * *

Вагаецца няўхільна вышыня,
вагаецца —
упасці альбо ўзняцца —
вышэй?.. ніжэй?.. —
узняцца альбо ўпасці
мая...
            ўва мне...
                        са мною...
                                    вышыня.

* * *

Была побач —
былі побач іншыя...
А пакінуў цябе
і накіраваўся да іншых —
нікога не стала.

* * *

Праб'ецца даўні запавет —
і стане цяжка,

стане дрэнна...
Але ужо не марны свет,
і шлях,
і клопат не дарэмны.

**Назаўжды**

Не называю імёнаў…
                                        Імёны
ўвабрала бяздонне вады,
схаваў туман папялёны,
пясок атуліў…
Назаўжды…

Наўшчыт засланілі галіны,
даслалі наўкот прамяні…
Сцяжыны, ірвы, каляіны
і самі — ні знаку… ані…

Спятрэлі прыкметы і кулі,
і самі — навошта? куды?..
Ім лічаць стагоддзі зязюлі,
адлічвае памяць гады.

Гукае іх вецер, і вёсны,
і лівень з-пад хмараў сівых…
Разгон, гаманкі і выносны,
ужо не зачэпвае іх.

А Буг не ўмяшчаўся ў разводдзі
і ў час непрыкметны паяў
каменка варочаў стагоддзі
і пекна падзеі вяртаў.

Вышыннай і воднай мяжою
з зямною мяжою ў адно
ў буянні знікала жывое,
ў буянні ўзнікала яно.

І доўга па ўсім асяродку
ад захаду да зары
ўсё нешта нясла верхаводка,
ўсё нешта ўздымалі віры…

Назаўтра шляхі размыкала,
займала на дзень малады…
Па тым,
    а па тым, што знікала,
    ні жалю, ні сну…
Назаўжды…

Сьціхне размах… Парадзее
туман…
Адплывае… няма…
Ды крэпасць — імя і падзея,
ёсць крэпасць —
падзея…
імя…

І літар засмяглых не сцерці,
і помніць імёны ліццё…
Не зніклі,
ўступілі ў бяссмерце,
у вечныя плынь і жыццё.

Нашчадкам і слава, і стома,
і справа —
мы веку раўня…
Да бою, што нам невядомы,
далучаны векам штодня.

У камень, які не астудзяць…
У крэпасць… ні снег, ні ільды.
Каменне, імёны і людзі…
Імёны і час…
Назаўжды…

* * *

Я знаходжу твае штрыхі
ў плынным часе,
знаходзіць буду…
Ты ўбіраеш зусюль шляхі

і па іх разыходзішся ўсюды.

Разыходзіцца заклік так,
разыходзіцца так трывога...
Грозны сімвал...
Таемны знак...—
не мінае ён анікога.

Не міне...
Засланяеш сабой,
моцай каменю і бетону...
Не зачэпіць, магчыма, бой —
замыкае адно абарона.

Нацягнуўся слупоў ланцуг,
прыўзняліся дазорныя вежы,
захліснуўся пятлёю Буг:
там, за позіркамі,—
замежжа.

На свядомасці — пісягі...
Невясёлае спасціжэнне,
што не родныя берагі,
выбухоўнае набліжэнне.

Я шапчу: спыніся, прыстань,—
гэтай спадчыне, гэтай славе,—
не прыходзь з мінулага, здань...
А прыходжу сам неўзабаве.

Каменны ансамбль, зацверджаны памяццю,— днём. Ноччу — іншае: абрысы размытыя... На драўляным мастку — ацеляснёны сімвал мудрасці — стаіць вартавы: далей нельга... Трэба — глыбей. Далечыня расхоплівае, абарона замыкае, каб захаваць... Логіка аперыруе вядомымі рэаліямі, перад невядомымі яна адступае: нараканні дзённыя. Яшчэ раз — трэба глыбей. Вартавы чакае змены. Магчыма, ёй буду я: на-

роджаны пад Знакам…

Адыход мой,
маё вяртанне,
і ўсё роўна напяты ход
мой з табою — ў сляпое ранне,
да цябе — у нязнаны год.

* * *

Крыніца зямнога сэнсу —
мёртвай… жывой вады…
І пошук пакутны сэрцу,
і быццам бы назаўжды.

Сонцы мінаюць — думаць!..
Мінаюць месяцы — думаць!..
Шукаць чалавечы сэнс.

Не выдумаю, не прыпомню,
ён недзе —
яшчэ нідзе:
мо выбліснe ясным промнем,
мо яблыкам упадзе.

У тогу, хламіду, кіцель,
на камень, шэзлонг, услон —
захуталіся,
сядзь,
            мысліцель!..
Ведае сэнсы ён.

У роздуме, у сумненні,
у спасціжэнні з'яў,
быццам само каменне,
ён нерухомы стаў.

Выпрабуе кірункі,
ацэніць магчымы засеў…

А рукі —
　　каменныя рукі,
　　і позірк яго анямеў.

Як ён, ахаплю асновы
існага,
усяго.
Складу чалавечыя словы:
наш сэнс — у шуканні яго.

Зрушыцца — і парушыць развагу і не высачыць вынік выніку?..— проста пойдзеш… направа павернеш… налева саступіш… Лёс мае чалавечае аблічча, і камень — аблічча мысліцеля. Пра што ты, крэпасць? Мысленне мысліць дзеянне: яно — змест мыслення. Гэтага не ведае камень. Але крэпасць ведае.

Сто сэнсаў налічыць развага
станоўчых і анты да іх…
Ды сэнсу суцэльнага прага —
адзінага —
поўніць уздых.

Дзейнічаю… І рупны
час набыцця і страт.
Што роздуму недаступна,
дзеянню акурат.

Грозныя зрухі ў свеце…
У бітве —
нямашака слоў —
куляю мне засвеціць
сэнс, што мяне знайшоў.

* * *

Важкім шляхам, хадой маруднай
(бачу прывід, бачу пустэль…)
пераходжу край неабудны,

падыходжу,
маўчу:
цытадэль...

І са мной — мая памяць таксама,
і мая яна — ўсё сама...
Не закрыта глухая брама,
не адкрыта...
Яе няма.

Пад нагамі залее прысак,
шорхнуць ніцыя быльнягі.
Небыцця, камяніцаў абрысы...
Непрытомныя берагі.

Дзе падзелася хваля жывая,
дзе падзеўся бурлівы Буг?
Дзе падзеліся?!
Спачывае
наваколле...
Замкнёны круг.

Але знойдзенае прызванне —
гэты рух —
прысьпяшае прыход.
І няма ўзнагароды ў пазнанні
ад палёгкі...
Наадварот...

Плынь вады абмінае востраў,
ветру плынь абмінае груд...
Казематы... Былі фарпосты.
Зараз помнікі...
Мёртвы кут...

Абмінае лозы і вербы
зелянец і птушыны грай...
А на сценах торныя шчэрбы,

бы прыступкі у небакрай.

Абмінаюць гады, імгненні
кут няўтульнасці,
кут вайны...
Толькі ўецца сутонне ў скляпеннях...
Здагадаюся:
гэта — яны.

* * *

Як нечакана чалавек застывае на парозе дома, у якім — бяда, засяроджаныя сітуацыі папярэджваюць пра дні наступныя, а ў сне разыгрываюцца падзеі — былі? будуць? — так, дарога да крэпасці была заслана адчуваннем трагедыі.

Навошта патоплыя кладкі
ляжаць у слаце дрыгвяной?
Навошта падказкі, аглядкі
тайком мільгацяць за спіной?

Навошта рассунуты хмызы,
навошта ўтаптаны дзірван?
Навошта — бялёсы і шызы —
вісіць нерухома туман?

Навошта вузламі карэнне
закручана?
Утоена даль?
Адкуль яно ўсё — сутарэнне,
адкуль засцярога і жаль?

...Тут плакаць ахвота, і камень —
адкуль ён? — і смутна душы.
Шыбалі, сюды веліканы,
а карлікі толькі дайшлі.

Дайшлі і ссівелі. Застылі.

А неба панурае ў дах.
І сам ты ў адвечным бяссіллі,
і сам ты застылы ў імхах.

Тут страчаны час,
і звароту
няма, і дарога — углыб…
Загінулі смех і згрызоты,
загіне імкненне і ўсхліп.

І моху раскошная шапка,
і пальцы спавіты — стаю…
Люблю, заміраючы зябка,
марудную гібель сваю.

* * *

А век зелянее пахілы
і новы — далёка зіма…
Без нас, як зярнят хларафілу,
пустэльняю б стала зямля.

Жывому — жыццё…
    Падабенства
    знішчае падобных…
Як тромб,
абложная ціша… шаленства…
як рэквіем — ціша і гром.

Схаваемся…
У нетрах глыбінных
заблудзіцца позірк прамы.
Зялёныя нашы кабіны,
даверху зялёныя мы.

Нас вышыня не прыкмеціць,
не скіне агню і выцця…
Мы скрозь разышліся па свеце,
мы скрозь — мімікрыя жыцця.

Мы скрозь —
атачыліся ў нетрах,
у млявым паветры, ў вадзе…
А рэквіем гамай і спектрам
праходзіць…
                    даходзіць…
                                        ідзе…

Адзнака, як памяць, старая…
Расступіцца ўзгорак руды:
на момант… на час…— хто стварае,
руіны і тло — назаўжды.

Знікае жыццё,
і расколу
глыбокая бездань… мяжа…
Выпешчваюць рэквіем долы,
атульвае ноч і імжа.

Выносяць аблокі і рэкі,
прыцягвае позірк і ўздых,
памацвае памяць…
А рэквіем,
жывому — жыццё,
                              па жывых…

Крэпасць загінула ў адной і ацалела ў сваёй таемнай іпастасі.

* * *

Мабыць, подступ і мары, і дні
да мяжы:
і не жыць дарэчы…
да жыцця: на якой даўжыні
выпадае з табой сустрэча.

На зямных неспадзеўных шляхах —
кожны шнар твой навобмацк і ў зроку,

і агонь апантаны ачах!..—
ўсё адно
здабываць надалёку.

Ад вярсты — да інакшай вярсты
аб' яўляешся,
здань і родзіч.
На няма... немагчымасці ты
у няма... вымярэнне ўводзіш.

Адкрываецца мур і засценне —
цэгла...
дол...
як раней, як даўно,
як даўно, светлаценяў трымценне...

Мне да сутнай прыйсці
ўсё адно.
Да мяжы...
завяршэння...
да сутнай...
а твае асляпляюць ірвы,
і пульсуе твой голас падспудны...

Ды яшчэ ўсё, яшчэ я жывы...
Ўсё яшчэ не табе... не табою...
Толькі помню...
Яшчэ і не сню...
Толькі здань...
Як да сэнсу і бою —
падступаць на тваю даўжыню...

Сёння позна і сёння рана,
прамаруджаны тэрміны ўсе,
несустрэтыя ўсе...
Ды абраны
міг зацяты ў няма... узнясе.

* * *

Крэпасць здзейсніла сваю эвалюцыю, выйшаўшы ў новае вымярэнне і тым самым разбурыўшы першапачатковую функцыю. Народжаныя пад яе Знакам, мы так ці інакш паўтараем яе шлях: вычарпаўшы адну іпастась, непазбежна паглыбляемся ў другую.

Адказваю, не пытаю —
будзь пільнаю, маладосць!—
што клопат ні загадае,
заўсёды гатовае: ёсць.

Сябра і вораг —
дрэвы,
чораг і сябра —
трава...
Ёсць — часавым нядрэмным
мёртвы спакой вартаваць.

Беламу свету ў служэнне,
часу наступнаму ўслед
тоім на спуску знішчэнне,
нацэленае на свет.

Божа, я не ўсясільны,
але, адолеўшы млосць,
каменем надмагільным
легчы — таксама ёсць.

Не папытаю навошта...
Хай словы не зберагуць —
Радзіма, любоў, ну што ж ты,
загадвай,
не марудзь.

За хмары і яснае неба,
за ўцеху,
ўраджай і не...—

усё, што табе патрэбна,
напэўна,
патрэбна і мне.

Адданцы твае не трапляюць
у моцы вярнуцца, ў хвальбе...
Па іх цябе ўяўляюць,
іх пазнаюць па табе.

Выконваю я загад:
затоеныя пачуцці...
Не развражай, салдат,
такога няма ў статуце.

Але хутчэй!..
Хутчэй!..
Бегма да пускустаноўкі,
гады бяссонных начэй —
і ўсё дзеля хвілі, што зноўку,
зноўку — ніяк... зусім...
дзеля хвіліны гэтай...
Дагнаць!..
Насцігнуць!..
Пустым,
страшным тхне над планетай.
Няспелаю песняю, ўсклікам—
космас...
Сонца — сляза...
Стартаваму разліку
падзяку за службу, за...

Ў бяспамятнасці, у адчаі
клопат — свет разбураць...
Нібы жыць азначае —
ўсе вышукі! —
паміраць.

Стомы цьмяны абсяг,

блізкае спусташэнне —
нібы надакучыў працяг,
і хочацца завяршэння.

Рэй — у няма...
Знаёмы
крэпасці цьмяны абсяг...
Свет на няма-разломе...
Блізка...
Іду...
Засмяг...

* * *

Сутнасць,
    не абалонка
    (свет мой — маё адкрыццё),
    россып тваіх рамонкаў...
    Снілася мне жыццё.

Лета вышынны плёскат
ціхую радасць ліе.
Белая бель —
    пялёсткі,—
    кружаць надзеі мае.

Па роднасным
па прытулку
шчымлівае пачуццё
высвятліць ціхую вулку...

Снілася мне жыццё.
Удала-няўдалая спроба,
іншай не дадзена мне,
мне тое жыццё даспадобы,
паталае ў даўніне.

У сховах свядомасці недзе
часу і з’яў наплыў...

Снілася, што угледзеў,
снілася, што любіў.

Снілася мне Айчына,
лета яе, зіма...
Хістаецца прад вачыма
жыццё, што было... няма...

Прастора дажджыцца сівая,
змывае сівое лісцё...
Туманіцца сон,
наплывае...
Мне снілася, снілася ўсё.

* * *

Пазачассе тут...
Хто распаліць
захаваны агонь вясны?..
Гэты кут...
Па-за часам памяць.
Мёртвы кут...
Па-за часам сны.

З пазачасся і шэпт, і трывога,
не прамоўленыя нікім:
— Не кранай, сачы, анічога
не забудзься, тут смерць ва ўсім.

Ды забудуся...
Вее бэзам... Навальніцай...
Жыццё пяе.
Не забудзься!..
    Кавалак жалеза
    упіваецца ў пальцы мае.

У зоне смерці жыцця не помняць...
Па прыступках збітых, крутых
я іду...

І руіны як споведзь
непрысутных прысутных іх.
Пра жыццё мая памяць…
А сны —
сумясціліся сны і здзяйсненне…
Забываюся…
Са сцяны…
І палётам маё падзенне.

* * *

Вочы перастаюць бачыць — смерць… Вушы перастаюць чуць — смерць… Рукі сціскаюць зброю — смерць… Адзіны рэальны стан — гэта смага: піць… жыць… не здацца… І паша жыццё — не мяжы смерці і будучыні. Смага плавіць каменне і сэрцы, і нельга пахіснуцца, і пагасіць смагу, і жыць па-іншаму.

Упадабаю я ростань
з каханнем,
з жыццём…
Наўсцяж
адкрыецца мне няпросты
сэнс бессмяротны наш.

Бачу зыход свой.
Бачу,
чым кончыцца гэты напал…
Ды блаславяю аддачу
забойсную,
напавал.

На безвыходным паверсе
ўтаймуецца
шал штурмавы…
І гіну я —
з кожнай смерцю…
З кожным жыццём

жывы.

Жыццё абаронцаў — рэчаіснасць новага парадку. Недасягнутая крэпасць існуе не меней рэальна, чым крэпасць з усталяванымі каардынатамі. Яна не трансфармуецца пяццю органамі адчуванняў і надае чалавечаму руху ўзаемную перспектыву, абяцаючы сустрэчу… Назаўжды.

Мы прыходзім пасля,
    каб маўчаць,
    у сляпыя глядзець камяніцы —
    зруйнаванае ўшанаваць,
    спапялёнаму пакланіцца.

Мы прыходзім…
Прыходзім пасля…
Узнавіць, зразумець, здагадацца…
А дзядоўнік лісты паслаў,
дзьмухаўцы разбрыліся па пляцы.
У трызненні, у забыцці,
ў безназоўнасці пазажыццёвай
уздымаюцца ціха байцы
і не ўстануць з уцехі лісцёвай.

Тут бязлюддзе…
На векі вякоў…
Засяроджанай цішы шматструнне
калыхнецца жалобай вянкоў
і буяннем упартай руні.

Праступае маўчаннем слоў,
тым, што ўдалечы занялася,
падабенства нашых шляхоў,
захаваная еднасць лёсаў.

Хай не мае аблічча абсяг,
безаблічны дзірван аздобны —

на мяне, на цябе, як працяг,
на ўсіх нас яны вельмі падобны.

Ні са жнівенем, ні з сяўбой
не сягае сюды час рупны...
Мы прад імі стаім і сабой,
перад колішнім і наступным.

Узіраемся ў камяні
і ў што выказаць немагчыма...
Распазнай яе,
дасягні —
узіраецца ў нас Айчына.

Засцярожана і зірката —
невідушчасць уся і слых —
зеўрыць цемра сляпых казематаў,
веюць пошапы сховаў сівых.

Расплываецца, мільгаціць
калатня, мітусня, выкрутасы...
Але мужнасць супрацьстаіць
разбуральнай беглясці часу.

Пара
адыходзіць.
Дарога кліча.
Буду доўга цябе паўтараць,
узнаўляць тваё буду аблічча —
чалавечнае,
не бастыльнае...
За сабою на ўвесь рубеж
адчуваю, як ты няўхільна
сваю пільную варту нясеш.

І тваёю мужнасцю сталы —
нібы ўплаўлены ў вечны сплаў
не ўпаду я, бо ты ўстаяла,

устаяла, каб я ўстаяў.

* * *

Хто ведае, можа, здзяйсненне
ўсе выкупіць спробы спаўна...
Ды хвіля майго узнясення,
хто ведае, што за яна.

Міжіншае стане істотным...
Штосчас адчуваю вастрэй
урэзаны ў лёс незваротны
да лёсу бязлітасны рэй.

Гады... Камяні... Набліжэнне...
Здзяйсненне...
І здані бяды...
Чаму не ўварвецца зрушэннем
бязмоўе і ціш?!.
Назаўжды.

Не называю імёнаў.

**ЗМЕСТ**

*I …І вяшчае жыццё*
Узыход
Пачатак
Эксперымент
*** Радзіма
Балада прыкметы
*** Я адстаў
*** Напінаецца цяж
Дзекабрыстам
*** Не распутае доляю ўбогай
*** Усплёскі вады і вербаў
Пытанне
Адкрыццё
*** Смуткуе бярозавы гай
Рагнеда
Нявыказаная балада
Ён вызваліў агонь
Шчасце
Прамільгнуўшае
Немагчымае
Балада цікаўнасці
*** Калі мы проста былі знаёмыя
*** Каб не пакінуць успаміну
Роспачная балада
*** Сачу вясну
Арышт Кастуся Каліноўскага
*** Усюды голас твой чуцён…
Сакавік
Балада пратэсту
Запавет
*** Адно сказаць
Першапраходцы
Барабаншчык
*ІІ. Пункціры*
*ІІІ. Назаўжды (паэма)*

Разанаў А.

Назаўжды. Вершы і паэма. Мн., «Маст. літ.», 1974.-112 с.

«Назаўжды» — новая кніга маладога паэта. У ёй змешчаны вершы і паэма. Аднайменная паэма напісана ў ліра-эпічным плане і расказвае пра гераічную эпапею Брэсцкай крэпасці.

Вершы — аб прыгажосці роднага краю, чалавечай мудрасці, а таксама на гістарычныя тэмы.